Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№195 (708) 6 кастрычніка 1993 г. Серада. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 500400 экз. | Кошт у розніцу — 15 руб.

# Беларусь не павінна быць запаведнікам для рэваншыстаў і цемрашалаў!

## Москва, 4 октября...

16.50

Сотни людей начали покидать российский "Белый дом" и сдаваться правительственным войскам. Они погружены в автобусы и вывезены из района "Белого дома".

После выхода первой группы из нескольких сот человек у здания вновь возникла спорадическая стрельба. Однако в 17.05 она прекратилась, и из здания начали выходить бывшие народные депутаты.

17.25—17.35

Остатки боевиков, находившихся в "Белом доме" в количестве до 50 человек, пытаются прорваться за кольцо окружения, сообщили корреспонденту Крим-пресс в пресс-службе ГУВД Москвы.

Эта попытка предпринята уже после капитуляции основной части сторонников Руцкого и Хасбулатова.

17.30

Издательско-полиграфический комплекс "Московская правда", расположенный на улице им. 1905 года, в течение получаса, начиная с 17 часов, подвергся интенсивному автоматному обстрелу со стороны боевиков. Как сообщил по телефону из здания комплекса заместитель главного редактора газеты "Вечерняя Москва" Евгений Стрельчик, вероятно, часть мятежников пытается пробиться из центра по Звенигородскому шоссе.

18.15

После 18 часов задержаны Хасбулатов и Руцкой, не оказавшие при этом вооруженного сопротивления.

**Наш специальный корреспондент Леонид Фадеев передает из "горячей точки" — Москвы**

## Борис Ельцин победил коммунистические Советы второй раз

### Похоже, на сей раз окончательно.

Так заявил на вчерашней пресс-конференции советник президента Петр Филиппов. Он сказал, что глава российского государства действует решительно и жестко. В Лефортовскую тюрьму отправлены Хасбулатов, Руцкой, Макашов. Арестованы парламентские большевистские фракционеры Бабурин, Исаков, Аксючиц, которые совсем недавно подбивали белорусских "патриотов" из команды Чикина одновременно с российским Верховным Советом дружно денонсировать договор об СНГ уже в октябре, объявить его "предательским". Через день им всем будут предъявлены обвинения и возбуждены уголовные дела.

Вчера Ельцин издал указ об отстранении от должности председателя Амурского Совета, который отказался исполнять указы президента и занял сторону мятежников. Скорее всего Ельцин склонен распустить все российские Советы как главную опору бывших и нынешних большевиков.

Между тем, когда передавались эти строки в номер, осада "Белого дома" продолжалась, не была снята с боевой вахты и бронетехника. Продолжается борьба с притаившимися снайперами.

❑

Вице-премьер российского правительства Сергей Шахрай признал просчет правительства относительно того, что произошло в "Останкино". Эффект неожиданности и растерянности сыграл здесь роковую роль. К тому же, добавил он, к такому иезуитскому приему, как стрельба из-за спин гражданских лиц, никто не был готов.

❑

По словам коменданта района чрезвычайного положения в Москве генерал-лейтенанта Александра Куликова, режим комендантского часа обеспечивают 5 тысяч милиционеров. Основной район их патрулирования — центральная префектура столицы. В свою очередь Министерство обороны РФ информирует, что дополнительные воинские контингенты в Москву не вводятся.

## Войска, которые не разрушают

**Вчера железнодорожным войскам Беларуси исполнилось 75 лет.**

Только за 1992 год этими войсками освоено 26.867 тысяч рублей капитальных вложений на объектах собственного строительства, выполнено строительно-монтажных работ для министерств и ведомств республики на сумму 77.459 тысяч рублей. Что ж, поздравляем!

## Удакладненне

Ад памылак ніхто не застрахаваны. Здараюцца "праколы", на жаль, і ў журналістаў "Народнай газеты". Вось і ўчора стала вядома, што ў справаздачы з пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, змешчанай у нумары за 16 верасня, Сяргеем Плыткевічам была дапушчана недакладнасць. Ён напісаў, што нельга было "разглядаць першае пытанне "Аб стане спраў у паліўна-энергетычным комплексе Рэспублікі Беларусь і падрыхтоўцы да зімы", бо не з'явіўся дакладчык — намеснік старшыні Дзяржэканамплана А.Боршч..."

На самай справе ўсё было крыху інакш. А.Боршч з'явіўся на пасяджэнне Прэзідыума і пазней выступіў з адпаведным дакладам, але разгляд першага пытання быў перанесены з-за таго, што члены Прэзідыума запатрабавалі з'явіцца непасрэдна прадстаўніка ўрада — намесніка Старшыні Савета Міністраў.

Дакладнасць, аб'ектыўнасць — гэта павінна быць нормай для кожнага журналіста, кожнага выдання. А таму рэдакцыя "Народнай газеты" просіць прабачэння ў Аляксея Афанасьевіча Баршча за недакладнасць С.Плыткевіча, на якога, заўважым, накладзена адпаведнае спагнанне.



*Пазіцыя*

## Наш шлях — незалежнасць і дэмакратыя

Трагічныя падзеі ў Маскве зноў засведчылі, што рэакцыйныя бальшавіцкія сілы да гэтага часу не пакінулі надзеі ўзяць рэванш, рэаніміраваць таталітарную сістэму не толькі ў Расіі, але і на ўсім абсягу былога СССР. Пралітая кроў бязвінных людзей паказала сапраўднае аблічча тых расійскіх палітыкаў, той часткі расійскага грамадства, да каго ў сяброўства набіваліся пракамуністычная большасць парламента Беларусі, урад, розныя антынацыянальныя, антыдзяржаўныя рухі і арганізацыі, аўтары ўсялякіх "зваротаў" і "заклікаў", змагары за аднаўленне савецкай імперыі.

Для ўсіх свядомых людзей у Беларусі ясна, што, нягледзячы на дэклараваную незалежнасць, дзяржава не зрабіла ў накірунку рэальнага суверэнітэту належных, эфектыўных крокаў. Тыя, хто за гады таталітарызму навучыўся толькі выконваць каманды з Масквы, "дазваляць і размяркоўваць", не здолелі вывесці краіну з крызіснага становішча, а заганялі яе яшчэ далей у тупік. Аблытваючы грамадства павуцінаю дэмагогіі і хлусні, бясконца лямантуючы пра "падкопы дэмакратаў, незалежнікаў і нацыяналістаў", кормячы людзей пустымі абяцанкамі, уладныя структуры тым часам стварылі атмасферу бескантрольнасці і беспакаранасці, патуралі раскраданню народнага багацця, спекуляцыі, "прыхватызацыі", карупцыі, узнікненню мафіёзных арганізацый, займаліся адкрытым і прыхаваным сабатажам, практычна дзейнічалі паводле прынцыпу: "Чым горш, тым лепш".

Палітыка зразумелая. Яна нацэлена на тое, каб людзі, даведзеныя гіперінфляцыяй, скачкамі цэн да матэрыяльнага і духоўнага жабрацтва, запалоханыя разгулам злачыннасці, самі папрасіліся пад крыло "моцнай рукі", прагаласавалі за рэстаўрацыю былой таталітарнай сістэмы.

Такі настрой у пэўнай часткі нашага грамадства заўважаецца. Не выключана, што "чырвона-карычневыя", якія актывізаваліся апошнім часам і ў Беларусі, натхнёныя прыкладам "расійскіх калегаў", скарыстаюць гэты настрой, паспрабуюць пайсці ў рашучы наступ на незалежнасць і дэмакратыю. Гэтага нельга дазволіць.

Усе спадзяванні на рэанімацыю савецкай бальшавіцкай імперыі марныя. Нягледзячы на вялікія цяжкасці, Расія, некаторыя іншыя суседнія краіны хоць і марудна, але няўхільна прасоўваюцца па шляху эканамічных рэформаў, развіцця дэмакратыі і забяспечваюць сваім народам сёння нашмат вышэйшы жыццёвы ўзровень у параўнанні з Беларуссю.

Што да плённага, выгаднага для Беларусі эканамічнага супрацоўніцтва з дэмакратычнай Расіяй і іншымі дзяржавамі, то такое супрацоўніцтва можна толькі вітаць. Але яно можа паспяхова развівацца і без небяспечных для нацыянальнага суверэнітэту "саюзаў" і "блокаў" — гэта даўно праверана сусветным вопытам. Няма перашкод і для стварэння рэжыму найбольшага спрыяння культурным, навуковым, спартыўным і ўсім іншым чалавечым сувязям на сапраўды агульнай духоўнай прасторы.

Становішча, што склалася ў Беларусі, патрабуе, каб да кіравання дзяржаваю ў самы бліжэйшы час прыйшлі новыя сілы: дэмакратычна абраныя, прафесійныя парламент і ўрад, якія б змаглі забяспечыць правядзенне рынпачных рэформаў, структурную і тэхналагічную перабудову заняпалых прамысловасці і сельскай гаспадаркі, цывілізаванае развіццё навукі, адукацыі, аховы здароўя і культуры, стварыць належныя ўмовы для плённай працы і нармальнага жыцця грамадства.

Кожны сумленны грамадзянін Беларусі сёння павінен зрабіць свой выбар і стаць сапраўдным, актыўным абаронцам суверэнітэту нашай дзяржавы. Агульнымі намаганнямі нам трэба захаваць мір і спакой у родным доме, не дапусціць развязвання грамадзянскай вайны і рэанімацыі бальшавіцкай таталітарнай сістэмы на абшарах Бацькаўшчыны, якая, на жаль, стала запаведнікам неакамунізму, прытулкам для рэваншыстаў самай рознай афарбоўкі. Трэба забараніць ваяжы эмісараў-падбухторшчыкаў у Беларусь, пазбаўляць грамадзянства тых, хто выступае супраць яе суверэнітэту. Наш шлях — незалежнасць і дэмакратыя! Толькі тады можна чакаць раўнапраўнага партнёрства і паважлівых адносін да Рэспублікі Беларусь з боку бліжэйшых суседзяў і ўсяго міжнароднага супольніцтва.

**Народны паэт Беларусі Пімен ПАНЧАНКА, народны пісьменнік Беларусі Васіль БЫКАЎ, Мікола АЎРАМЧЫК, Адам МАЛЬДЗІС, Пятрусь МАКАЛЬ, Уладзімір ПАЎЛАЎ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Аляксей ДУДАРАЎ, Анатоль КУДРАВЕЦ, Алесь ЖУК, Вольга ІПАТАВА, Мікола ГІЛЬ, Генрых ДАЛІДОВІЧ, Валянцін БЛАКІТ, Уладзімір АРЛОЎ, Аляксандр ШАБАЛІН, Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ, Артур ВОЛЬСКІ, Таіса БОНДАР, Хрысціна ЛЯЛЬКО, Кастусь ЦВІРКА, Раіса БАРАВІКОВА, Міхась ТЫЧЫНА, Васіль ГІГЕВІЧ, Эрнест ЯЛУГІН, Анатоль КЛЫШКА.**

## Зварот апазіцыі БНФ да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь

Апазіцыя Беларускага народнага фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь ухваляе рашучыя дзеянні прэзідэнта Расіі спадара Ельцына па ліквідацыі чарговага фашысцка-камуністычнага мяцяжу ў Маскве, распачатага экстрэмістамі 3 кастрычніка. Мы выказваем спачуванні родным і блізкім нявінна забітых людзей у Расіі, асуджаем камуністычных і фашысцкіх забойцаў.

Апазіцыя БНФ лічыць, што злачынныя сілы разбою і вайны ў Расійскай Федэрацыі вялі падрыхтоўку да мяцяжу ў Маскве сумесна з камуністамі і пракамуністычнымі, праімперскімі арганізацыямі на Беларусі, звяртае ўвагу на сувязь дзеянняў камуністаў Беларусі і Расіі. Грамадскім выяўленнем гэтай сувязі і падрыхтоўкі мяцяжу стаў так званы Кангрэс народа Беларусі, змест якога быў скіраваны на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і аднаўленне таталітарнага СССР.

Грамадства Беларусі стала сведкам здрады Радзіме часткі дэпутатаў пракамуністычнай большасці Вярхоўнага Савета Беларусі, якія ўступілі ў злачынную змову са Старшынёй былога Вярхоўнага Савета Расіі і арганізатарам крывавага мяцяжу — Русланам Хасбулатавым і іншымі чырвона-карычневымі сіламі, узначальваемымі сп.сп. Зюганавым, Стэрлігавым і інш. Усё гэта адбывалася пры спагадных адносінах пэўных структур і асоб урада Беларусі (Г.Данілава, С.Гайдукевіча, В.Паўлава і інш.).

Мы, дэпутаты апазіцыі БНФ, настойваем на тэрміновым скліканні нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Мы патрабуем ад Савета Міністраў Беларусі тэрміновых захадаў. Менавіта:

— забяспечыць бяспеку тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ад пранікнення злачынных груповак і асоб пасля разгрому фашысцка-камуністычнага мяцяжу ў Расіі;

— тэрмінова ўвесці дакументальны і мытны кантроль на межах Беларусі з Расіяй, а ў бліжэйшы час разгледзець пытанне аб увядзенні візавага рэжыму;

— забараніць дзейнасць камуністычных і праімперскіх партый і арганізацый на Беларусі (ПКБ—КПБ—КПСС, ДСПС, Саюз афіцэраў, Славянскі сабор "Белая Русь").

Мы звяртаемся да Генеральнага пракурора Беларусі сп. В.Шаладонава з патрабаваннем прыступіць да расследавання антыдзяржаўнай дзейнасці гэтых арганізацый, ступені іх удзелу ў камуністычным мяцяжы ў Расіі і ў падрыхтоўцы гэтага мяцяжу.

Мы лічым неабходным паставіць пытанне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленні дэпутацкіх паўнамоцтваў дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікалая Скарыніна, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва, якія выступілі супраць незалежнасці Беларусі. Мы ставім пытанне аб расследаванні Генеральным пракурорам Беларусі іх магчымага ўдзелу ў падрыхтоўцы камуністычнага мяцяжу ў Расіі і ў дзеяннях, накіраваных на ліквідацыю суверэнітэту і дзяржаўнасці Беларусі, пра што большасць з іх неаднаразова публічна засведчыла.

Мы патрабуем неадкладна спыніць распаўсюджванне на Беларусі расійскіх камуністычных і фашысцкіх газет ("Правда", "Советская Россия", "День" і г.д.).

Мы лічым недапушчальным знаходжанне на тэрыторыі Беларусі кіраўнікоў кампартый іншых краін (сп.сп. Буракявічуса, Шведа і інш.), якія праследуюцца ў гэтых краінах па закону за крымінальныя дзеянні.

**Народныя дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце: З.Пазьняк, У.Заблоцкі, В.Голубеў, Л.Баршчэўскі, М.Крыжаноўскі, С.Навумчык, Г.Сямдзянава, Б.Гюнтар, А.Трусаў, В.Аляміеў, С.Антончык, У.Новік, Ю.Беленькі, Л.Зданевіч, І.Пырх, Л.Тарасенка, В.Малашка, І.Германчук, Л.Дэейка, І.Герасюк, А.Шут, П.Холад, Я.Цумараў, В.Даўгалёў (член дэпутацкай групы "Згода").**

## Заява Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Францавіча Кебіча

Паважаныя суайчыннікі!

Мой зварот да вас прадыктаваны падзеямі апошніх дзён у г.Маскве. У суботу, нядзелю і асабліва 4 кастрычніка ў Савет Міністраў пастапае многа тэлефонных званкоў і зваротаў грамадзян. Людзі непакояцца за свой лёс, за лёс рэспублікі.

У гэтай сувязі перш за ўсё хачу сказаць аб тым, што ўрад працуе ў напружаным рэжыме і поўнасцю кантралюе сітуацыю. Абстаноўка ў рэспубліцы стабільная. У абласцях і раёнах завяршаецца ўборка.

Да фінішу года мы прыйдзем з добрымі вынікамі. Атрыманы сапраўды рэкордны ўраджай збожжавых культур — 33,4 цэнтнера з гектара. Валавы збор збожжа чакаецца на ўзроўні 8,7 млн. тон, а бульбы — 10 млн.тон, што намнога больш, чым у мінулым годзе. Высокі ўраджай цукровых буракоў. У жніўні—верасні атрымана больш мінулагодняга малака, мяса, іншай прадукцыі жывёлагадоўлі. Усё гэта дасягнута дзякуючы самаахвярнасці працаўнікоў вёскі, якія ў вельмі цяжкіх умовах надвор'я, пры недахваце паліўна-энергетычных рэсурсаў змаглі вырасціць і сабраць багаты ўраджай.

Ад імя ўрада, ад сябе асабіста я хачу сардэчна падзякаваць сялянам за гэты працоўны подзвіг, а таксама сказаць дзякуй гараджанам, рабочым прамысловых прадпрыемстваў за дапамогу і падтрымку сельскай гаспадаркі.

Сур'ёзным выпрабаваннем для нашага народа з'явілася ў гэтым годзе стыхійнае бедства. Шэраг раёнаў Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай абласцей аказаліся затопленымі з-за вялікіх дажджоў. Урадам прыняты ўсе меры па аказанню дапамогі людзям і арганізацыям, якія пацярпелі ад паводкі. На ліквідацыю вынікаў стыхіі выдзелены неабходныя сродкі з бюджэту. Ні адзін чалавек не будзе пакінуты ў бядзе.

Велізарныя намаганні ўрад і я як Старшыня Савета Міністраў прыкладалі і будзем прыкладаць для ўмацавання Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Мы падышлі непасрэдна да стварэння эканамічнага саюза і цвёрда перакананы ў тым, што толькі за кошт аб'яднання можна аднавіць абарваныя гаспадарчыя сувязі, вывесці эканоміку з крызісу, пазбегнуць росту беспрацоўя.

Я лічу, што ў гэты трывожны час кожны з нас, хто мае адносіны да палітыкі, абавязаны думаць не аб асабістых амбіцыях, а аб тым, як захаваць спакой і згоду ў грамадстве, шляхам дыялога дабіцца разумных рашэнняў.

Урад заўсёды праводзіў і будзе праводзіць у далейшым палітыку дружбы і добрасуседскага супрацоўніцтва з вялікім народам Расіі. Нашы адносіны з Расіяй не могуць падвяргацца ваганням палітычнай кан'юнктуры. Хачу сказаць, што нават у гэтыя, поўныя драматызму дні працягваюць выконвацца падпісаныя міжурадавыя пагадненні. Нарастаюць аб'ёмы паставак расійскай нафты ў нашу рэспубліку. Намеціліся добрыя перспектывы работы па іншых напрамках эканамічнага ўзаемадзеяння. У гэтай сувязі трагічныя падзеі ў Маскве выклікаюць велізарнае шкадаванне і трывогу. У любой сітуацыі не павінны цярпець мірныя людзі, не павінна праліваццa нявінная кроў. Асобы змяняюць адна адну, а вялікі рускі народ застаецца.

Мы хочам бачыць Расію квітнеючай і моцнай, блізкай і дружалюбнай нам краінай. Мы ўсёй душой жадаем міру і дабрабыту рускім людзям.

Я перакананы, што ад стабільнасці ў Расіі залежыць дабрабыт Беларусі, залежаць перспектывы нашай дзяржаўнасці і суверэнітэту.

Урад зробіць усё, што ад яго залежыць, каб грамадзянскае процістаянне, якое захліснула краіны СНД, не перакінулася цераз нашы граніцы. Мы будзем цвёрда падтрымліваць канстытуцыйны парадак, павагу да Вярхоўнага Савета. Усім, хто спрабуе насаджаць у нашым грамадстве канфрантацыю і нянавісць, мы гаворым цвёрдае і рашучае "не".

Урад Рэспублікі Беларусь выказвае надзею на хутчэйшае аднаўленне правапарадку і спакою ў Маскве і заяўляе аб сваёй падтрымцы курсу дэмакратычных рэформ і пераўтварэнняў, праводзімых урадам Расіі.

Звяртаюся да ўсіх дзяржаўных органаў, да працоўных калектываў, палітычных і грамадскіх арганізацый, грамадзян рэспублікі з заклікам праяўляць спакой і ўпэўненасць. Памятайце — наша сіла ў нашым адзінстве, у адзінстве людзей розных нацыянальнасцей, палітычных поглядаў і веравызнанняў.

Жадаю дабрабыту нашым людзям. Упэўнены, што мы зможам перажыць гэты цяжкі час і дабіцца працвітання Беларусі.

**В.Ф.КЕБІЧ.**

*Мінск, 4 кастрычніка 1993 г.*

## Беларускае рэха маскоўскіх падзей

❑

**Прэзідыум савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі на сваім пасяджэнні прыняў заяву, у якой гаворыцца, што ФПБ "асуджае сілы, якія сталі на шлях кровапраліцця."**

Адзіна магчымым сродкам правядзення дэмакратычных рэформ, на думку ФПБ, могуць быць толькі дзеянні ў рамках закона.

❑

**Як заявіў карэспандэнту Белінфарма старшыня Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі Аляксандр Дабравольскі, падзеі ў Маскве — заканамерны працяг традыцый камуністычнага тэрору, "які санкцыяніруецца таталітарнай ідэалогіяй чырвона-карычневых".**

Ад імя выканаўчага камітэта АДПБ Дабравольскі выказаў падтрымку курсу, праводзімаму прэзідэнтам і ўрадам Расіі.

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб скліканні трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

склікаць трынаццатую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання 9 лістапада 1993 года ў горадзе Мінску.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г.
г.Мінск. N 2509-XII

*Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб парадку дня трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання"

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

адобрыць і перадаць на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праект пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб парадку дня трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання" (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

29 верасня 1993 г. г.Мінск. N 2510-XII

*(Праект пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб парадку дня трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання і дадаткі да яе друкуюцца на 2-й стар.)*

*Репортер узнал*

## Дистрибьютор вытесняет посредника

**6 октября в Минске начала работу самая крупная в Беларуси ярмарка "Мінскі кірмаш. Восень-93". В ней участвуют 250 экспонентов из 20 государств ближнего и дальнего зарубежья.**

На стендах представляются оборудование, товары и другая продукция более сорока групп, а также услуги по дизайну, рекламе, полиграфии.

**Виктор ХОРОШКО.**

## Вкратце

**В Минске в посольстве государства Израиль состоялась пресс-конференция на тему "Израиль. Белорусско-израильские отношения".**

Перед собравшимися выступил Чрезвычайный и Полномочный Посол государства Израиль в Республике Беларусь Элияху Валкс. Он, в частности, выразил мнение, что "израильские дипломаты видят свою миссию в Минске прежде всего в налаживании взаимовыгодных экономических связей между двумя странами".

❑

**Министр иностранных дел Эстонии Трывини Вэлистэ выступил с инициативой, чтобы Литва, Латвия и Эстония приобретали для своих армий одинаковое оружие.**

Как известно, еще раньше Литва предлагала создать общий Совет министров трех стран.

## Эти ветви, кажется, ладят...

Второй съезд Федерации анархистов Беларуси состоялся в субботу 2 октября. На нем присутствовали девять делегатов, представляющих четыре основные ветви: анархо-синдикализм, анархо-радикализм, анархо-коммунизм и анархо-индивидуализм. На съезде приняты Программные принципы, Свободный договор и другие документы. Как пояснил один из участников съезда, "партии борются за власть, а мы — против".

Из культурной программы было чаепитие, а затем мирный проход под черными флагами с пением "Марсельезы" и "Варшавянки" по тротуару Партизанского проспекта.

**Владимир САМОЙЛОВ.**

## "Вердер" очень разозлил "Динамо"!

Состоялись матчи 12-го тура Национального чемпионата Беларуси по футболу. Вот их результаты: "Динамо-93"— "Гомсельмаш" — 2:0, "Неман" — "Торпедо" (Мн) — 0:1, "Шинник" — "Строитель" — 3:1, "Ведрич" — "Молодечно" — 1:2, "Фандок" — "Динамо" (Бр) — 0:1, "Днепр" — "Торпедо" (Мг) — 3:0, "КИМ" — "Шахтер" — 2:0, "Динамо" (Мн) — "Локомотив" — 5:1.

Положение команд после 12-го тура:

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Динамо Мн | 12 | 11 | 0 | 1 | 33—11 | 22 |
| Динамо-93 | 12 | 9 | 3 | 0 | 23—3 | 21 |
| КИМ | 12 | 9 | 1 | 2 | 18—7 | 19 |
| Днепр | 12 | 7 | 2 | 3 | 23—7 | 16 |
| Молодечно | 12 | 6 | 3 | 3 | 17—11 | 15 |
| Торпедо Мн | 12 | 4 | 4 | 4 | 9—11 | 12 |
| Динамо Бр | 12 | 3 | 5 | 4 | 7—11 | 11 |
| Фандок | 12 | 4 | 2 | 6 | 7—12 | 10 |
| Ведрич | 12 | 3 | 4 | 5 | 9—13 | 10 |
| Гомсельмаш | 12 | 4 | 1 | 7 | 16—18 | 9 |
| Шинник | 12 | 4 | 1 | 7 | 13—17 | 9 |
| Торпедо Мг | 12 | 3 | 3 | 6 | 8—15 | 9 |
| Неман | 12 | 3 | 3 | 6 | 11—18 | 9 |
| Шахтер | 12 | 2 | 5 | 5 | 10—14 | 9 |
| Локомотив | 12 | 2 | 2 | 8 | 8—24 | 6 |
| Строитель | 12 | 2 | 1 | 9 | 6—27 | 5 |

## Спорт-экспресс

На международном турнире теннисисток в Лейпциге Штеффи Граф из Германии победила в 1/4 финала минчанку Наталью Звереву — 6:2, 6:1.

❑

В Софии состоялся ответный гандбольный матч 1/16 финала розыгрыша Кубка европейских чемпионов. Минские армейцы проиграли местному клубу "Беласица" — 29:23, но по сумме двух встреч (в Минске наши спортсмены победили — 32:16) вышли в следующий круг.

